На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

**№171 (1984)**

Аўторак, 14 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».
Кошт свабодны.


# Народная Воля


E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +21...+23, уначы — +13...+15; у Брэсце ўдзень — +22...+24, уначы — +16...+18; у Гродне ўдзень — +22...+24, уначы — +16...+18; у Віцебску ўдзень — +18...+20, уначы — +13...+15; у Гомелі ўдзень — +20...+22, уначы — +13...+15; у Магілёве ўдзень — +20...+22, уначы — +12...+14.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца сонечнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**ТАК И СКАЗАЛ...**

## *Александр ЛУКАШЕНКО:*

*«Я хорошо вижу людей, которые уже давно, говоря по-простому, «роют землю», чтобы в 2006 году прийти к власти. Знаю, где, у кого и под какие обещания они берут деньги.*

*Понятны и помыслы тех, кто их финансирует. Это выгодное вложение капитала. Если удастся продвинуть на должность Президента прикормленного человека, они получат белорусские заводы, фабрики. Всю нашу страну и нашу землю».*

*Из статьи 112 Избирательного кодекса Республики Беларусь:*

# «На республиканский референдум не могут выноситься вопросы: ...связанные с избранием и освобождением Президента Республики Беларусь...»

### З просьбай пракаментаваць гэты выраз «Народная воля» звярнулася да «прикормленных» палітыкаў, што ўжо заявілі пра свае прэзідэнцкія амбіцыі на 2006 год

***Валерый ФРАЛОЎ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў:***

— Гэта палітычная бязглуздзіца. У нашай краіне дастаткова патрыётаў, у тым ліку ў парламенцкай групе "Рэспубліка", якія працуюць на ідэю і ніякіх грошай не атрымліваюць. Ніхто не збіраецца аддаваць ці распрадаваць фабрыкі і заводы, я б сказаў тут пра разумную эканамічную палітыку, дзе за кошт унутраных рэзерваў альбо інвестыцый трэба "прымусіць" гэтыя фабрыкі і заводы эфектыўна працаваць. І замежныя інвестыцыі варта прыцягваць, гэта нармальная сусветная практыка, нічога дрэннага тут няма.

***Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:***

— Я ў першую чаргу хачу зазначыць, калі сказанае адносіцца ў тым ліку і да мяне, што перад Госпадам Богам і перад беларускім народам гатовы трымаць адказнасць за тое, хто, як і ў якой колькасці мяне "фінансуе".

Відавочна жаданне маніпуляваць грамадскай думкай, паколькі да апошняга моманту тэма са "зладзюгамі" была бяспройгрышнай і працавала на карысць беларускага афіцыйнага лідэра. Але ўсе разумныя людзі ўсведамляюць, што на самай справе ёсць ісціна: такіх людзей у беларускім грамадстве шмат. Кагосьці гэтыя выразы, можа, і пераканалі ў тым, што ўсе дэмакратычныя палітыкі — "злыдні" і "хапугі" і толькі адзіная асоба ў нашай дзяржаве шчырая і непадкупная... Але падобныя выпады часцей за ўсё бумерангам вярталіся да таго, хто бессаромна ўводзіў грамадства ў зман.

Дарэчы, я ніколі не адносіўся да тых, хто ацэньваў дзеянні Лукашэнкі толькі крытычна, а аддаваў належнае ўсяму таму пазітыўнаму, што было зроблена ім за дзесяць гадоў. І калі мы хочам дасягнуць якіх-небудзь змен, то не павінны адмаўляць тое, што ў нас быў такі гістарычны перыяд і такі прэзідэнт, што былі і нейкія станоўчыя вынікі яго праўлення. Самая трагічная памылка Лукашэнкі — ён не ацаніў сітуацыю, каб своечасова сысці, стаў сапраўдным тормазам на шляху развіцця грамадства, эканомікі і краіны ў цэлым. Я цвёрда перакананы, што ўсе рэсурсы афіцыйнага лідэра для пераадолення бар'ера 2006 года вычарпаны. У 2006 годзе ў Беларусі будзе новы прэзідэнт.

***Міхаіл ЧЫГІР, прэм'ер-міністр Беларусі ў 1994—1996 гг.:***

— Па-першае, краіна не павінна быць таталітарнай, ёй не павінен кіраваць адзін чалавек. Тады ніводны прэзідэнт, нават з бруднымі думкамі, нічога дрэннага зрабіць не зможа. Трэба будаваць нармальную палітычную сістэму.

А наконт фабрык, заводаў і ўсяго іншага... Калі б асабіста я ставіў галоўнай мэтай заможнасць і ўласны капітал, тады б я ніколі не сышоў ад Лукашэнкі і служыў бы яму.

***Андрэй КЛІМАЎ, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання:***

— Наконт фабрык і заводаў ён усё правільна сказаў. Па цяперашняй Канстытуцыі прэзідэнт з'яўляецца практычна феадалам. Гэта мадэль дэголеўскай Канстытуцыі, вядомым выслоўем дэ Голя было "капіталізм — дрэнны, а сацыялізм — яшчэ горш". У Беларусі, як вядома, капіталізм дрэнны, а сацыялізм — непатрэбная спадчына... Лукашэнка, гаворачы пра такія рэчы, мабыць, мерае па сабе. Зыходзячы са свайго светапогляду, сваіх каштоўнасцяў. Гэта яго пункт гледжання, які сведчыць пра тое, які ён на самай справе.

Яму цяжка ўявіць, што іншы прэзідэнт будзе проста імкнуцца рабіць жыццё беларусаў лепш і пазбавіць іх ад прыгоннай залежнасці.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**



### З 27 верасня па 1 кастрычніка консульска-прававы аддзел Пасольства ФРГ у Мінску часова спыніць работу з прычыны пераезду

Пасольства Германіі, прыём і выдача дакументаў у гэты перыяд будуць спынены. Консульскае абслугоўванне грамадзян ФРГ будзе ажыццяўляцца ў экстранных выпадках з 10.00 да 12.30 у будынку пасольства па вуліцы Захарава, 26. Візавы аддзел пасольства будзе зачынены. З тэхнічных прычын прыём заяў і выдача пашпартоў рабіцца не будуць.

Супрацоўнікі візавага аддзела адновяць прыём і выдачу дакументаў 4 кастрычніка ўжо ў новым будынку консульска-прававога аддзела Пасольства Германіі. Грамадзян, якія ўжо здалі дакументы на атрыманне візы і плануюць пачатак сваіх паездак з 27 верасня па 3 кастрычніка, просяць своечасова, да закрыцця візавага аддзела, атрымаць пашпарты.

**Марына РАХЛЕЙ.**

**БЛІЦ-АПЫТАННЕ**

## Ці мае права грамадзянін Аляксандр Лукашэнка ўдзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах?

***Віталь СУПРАНОВІЧ, музычны прадзюсер:***

— Не. У Канстытуцыі чорным па белым запісана, што адна і тая ж асоба можа займаць пасаду прэзідэнта не больш за два тэрміны. Такое правіла існуе практычна ва ўсіх цывілізаваных краінах, яно павінна застацца і выконвацца і ў нас.

***Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, актывіст незарэгістраванага маладзёжнага руху «Зубр»:***

— Я лічу, што калі ў Канстытуцыі запісана, што адна і тая ж асоба не можа займаць прэзідэнцкую пасаду два тэрміны запар, то, значыць, так і павінна быць. А так нас чакае магчымае змяненне Канстытуцыі "пад сябе". Гэта ўчынак, які, на мой погляд, не падлаецца аніякаму апраўданню.

***Міхаіл ХУРС, намеснік дырэктара Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па навуковай працы:***

— Я лічу, што ён будзе мець такое права ў выпадку, калі гэта будзе ўрэгулявана ў заканадаўчым парадку. Зараз па Канстытуцыі Аляксандр Лукашэнка не мае такога права, але ён можа набыць яго, калі большасць беларусаў засведчыць гэта на рэферэндуме. Калі народ дазволіць, то Аляксандр Рыгоравіч зможа вылучаць сваю кандыдатуру ў 2006 годзе, калі не, то, вядома, права вылучацца ў кіраўніка дзяржавы не будзе.

***Таццяна РАБЯНКОВА, студэнтка:***

— Лічу, што Лукашэнка не мае права ўдзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах. Таму што на сённяшні дзень гэта супярэчыць асноўнаму закону — Канстытуцыі. А закон для ўсіх адзін, і перарабляць яго ў сваіх інтарэсах не варта.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ, Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**МОНИТОРИНГ**

### Партия БНФ требует обеспечить равные права для агитации как "за", так и "против" референдума

Партия БНФ требует обеспечить равные права для агитации как "за", так и "против" референдума. Соответствующие письма руководство партии направило в Центризбирком, редакции Белтелерадиокомпании и газеты "Советская Белоруссия", а также в Министерство юстиции и Министерство информации.

Как отмечается в заявлении, с 8 сентября в эфире белорусских телевизионных каналов, Первого национального, ОНТ и других, а также в эфире государственного радио "начали транслироваться агитационные ролики, очевидно направленные на то, чтобы побудить избирателей проголосовать за вынесенный на референдум вопрос". Партия БНФ требует дать информацию, из каких источников финансируется изготовление и трансляция этих агитационных роликов. Она также требует размещать в ежедневной программе "Панарама" блоки с агитацией против вынесенного на референдум вопроса, равные по объему с теми, где содержится призыв голосовать "за". То же самое требуется от Белорусского радио и от газеты "Советская Белоруссия". Партия БНФ готова предоставлять материалы для этих блоков или публикаций.

### Первый политический флэшмоб пройдет в Беларуси 16 октября

16 октября состоится первый Всебелорусский политический флэшмоб. Как сообщается в электронном письме, разосланном по редакциям СМИ, "участнику флэшмоба необходимо в указанное время (17.00) просто выйти на улицу с черной ленточкой на рукаве. Черный цвет — это цвет тревоги за будущее нашей страны, это символ солидарности со всеми терроризируемыми людьми по всему миру". Целью своей акции организаторы называют "противодействие надвигающейся угрозе пожизненного президентства". **"Мы не представители оппозиции, мы не малолетние тинейджеры, мы не выжившие из ума столетние пенсионеры. Мы обычные люди, которые работают на двух работах, чтобы прокормить семью, которые семь месяцев в году копят на двухнедельный отпуск в Литве, которые не участвуют в так называемых "митингах" и "акциях". Мы сознательно остановились на идее флэшмоба как наиболее демократичной..."** — говорится в письме.

Флэшмоб начнется 16 октября примерно в 17.00. В письме сообщается, что участвовать в нем смогут люди на территории всей Беларуси, поскольку определенного места проведения у флэшмоба нет. Участнику флэшмоба необходимо в указанное время просто выйти на улицу с черной ленточкой на рукаве. Как отмечается в письме, это заведомо мирное мероприятие. Не надо брать с собой национальные флаги и транспаранты, нет необходимости кричать, собираться группами и вести себя неадекватно. Продолжительность флэшмоба не ограничена — когда снять ленточку с рукава, решает каждый из его участников самостоятельно.

***Рычард БАЎЧАР, прэс-сакратар Дзяржадэпартамента ЗША:***

### «Выбары і рэферэндум, што не адпавядаюць дэмакратычным стандартам, прымусяць ЗША перагледзець палітыку ў дачыненні да кіраўніцтва Беларусі»

Аб гэтым гаворыцца ў заяве прэс-сакратара Дзяржадэпартамента Злучаных Штатаў Рычарда Баўчара, якое распаўсюдзіла Пасольства ЗША ў Беларусі.

Як падкрэсліваецца ў заяве Баўчара, Злучаныя Штаты будуць разглядаць "любы рэферэндум, які не адпавядае міжнародным стандартам, як яшчэ адну спробу маніпуляцыі дэмакратычнымі працэдурамі і беларускай Канстытуцыяй, што парушае дэмакратычныя прынцыпы".

"На жаль, бясконцыя парушэнні ўрадам Беларусі правоў чалавека і дэмакратыі ізалявалі краіну ад міжнароднай супольнасці, замест таго каб яна заняла пачэснае месца сярод дэмакратычных краін Еўропы, якое павінна мець па праве, гаворыцца ў заяве. — Улічваючы гэты негатыўны досвед мінулага, указ прэзідэнта Лукашэнкі аб абвяшчэнні рэферэндуму з мэтай скасаваць устаноўленае абмежаванне колькасці прэзідэнцкіх тэрмінаў і дазволіць яму зноў удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2006 года выклікаюць сур'ёзныя сумненні наконт таго, ці будуць яго вынікі свабоднымі і справядлівымі і ці будуць яны адлюстроўваць сапраўдны выбар беларускага народа".



Рычард Баўчар заклікае "беларускія ўлады" даць гарантыі беларускаму народу наконт таго, што абмеркаванне, галасаванне і падлік галасоў пройдуць у адпаведнасці з міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі — як 17 кастрычніка, так і надалей — і тэрмінова прыняць захады па выкананні Беларуссю сваіх міжнародных абавязацельстваў у галіне дэмакратыі і правоў чалавека".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

### Што думае Вешнякоў пра беларускі рэферэндум

Кіраўнік Цэнтрвыбаркама РФ Аляксандр Вешнякоў лічыць правядзенне ў Беларусі рэферэндуму аб магчымасці Аляксандра Лукашэнкі балатавацца на трэці тэрмін асабістай справай рэспублікі, але зазначае, што ў Расійскай Федэрацыі гэта забаронена, паведаміла РІА "Новости". "Яны (беларусы) могуць вырашаць гэтае пытанне, зыходзячы са сваіх прававых магчымасцяў", — сказаў А.Вешнякоў у размове з журналістамі.

Разам з тым кіраўнік ЦВК РФ нагадаў, што "ў Расіі ў свой час у заканадаўстве было выразна зафіксавана, што праблемы магчымага працягу прэзідэнцкіх паўнамоцтваў нельга вырашаць на рэферэндуме". "У падтрымку гэтага выказаліся ў свой час прадстаўнікі ўсіх палітычных партый", — зазначыў ён.

А.Вешнякоў дадаў, што яго "здзіўляе пазіцыя лідэра КПРФ, які назваў рэферэндум "добрым дэмакратычным крокам". "Не ведаю, ці не падвойныя стандарты пануюць у галовах некаторых нашых палітыкаў", — сказаў кіраўнік ЦВК.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Предотвратим изменение конституционного строя Беларуси!

*Заявление республиканского общественного объединения Белорусский Хельсинкский комитет*

7 сентября 2004 года президент Беларуси А.Лукашенко своим Указом назначил республиканский референдум по изменению Конституции Республики Беларусь относительно избрания президента страны без ограничения сроков пребывания на этой должности. Предлагается исключить ограничение, содержащееся в части 1 статьи 81 Конституции, о том, что **"одно и то же лицо может быть Президентом не более двух сроков".** После пребывания на этой должности в течение двенадцати лет А.Г.Лукашенко по результатам референдума хотел бы получить возможность оставаться президентом на неограниченное количество сроков.

Путем "свободного волеизъявления" гражданам предлагают ликвидировать основополагающий демократический конституционный принцип сменяемости власти. В истории Беларуси и других стран мира такая практика приводила к узурпации власти, установлению культа личности, свертыванию демократии, массовым нарушениям прав и свобод граждан. Белорусский народ хотят заставить вернуться в прошлое: в годы тоталитаризма, сталинско-брежневские времена.

Данный Указ противоречит основам Конституции на построение в Беларуси демократического социального правового государства и грубо попирает нормы законодательства о народном голосовании. Вынесенный на референдум вопрос подпадает под запрет, содержащийся в статье 112 Избирательного кодекса. В ней предписывается: **"на республиканский референдум не могут выноситься вопросы: ... связанные с избранием и освобождением Президента Республики Беларусь".**

Принимая во внимание незаконный характер изданного Указа, РОО "Белорусский Хельсинкский комитет" **призывает:**

— граждан Республики Беларусь со всей ответственностью подойти к судьбе государства, своей собственной судьбе и сказать **"Нет референдуму!"**;

— политические партии, общественные объединения, видных деятелей культуры, науки, спорта встать на защиту демократии;

— Центральную комиссию Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов, местную исполнительную власть, Совет министров — не исполнять его предписаний, так как действия по его выполнению являются антиконституционными и влекут ответственность в соответствии с законом.

Мы обращаемся к странам и правительствам, выступившим гаранатами суверенитета и независимости молодого белорусского государства с призывом предпринять исчерпывающие меры, направленные на предотвращение изменения конституционного строя в Беларуси.

*З артыкула 81 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь:*

# «...Адна і тая ж асоба можа быць Прэзідэнтам не больш двух тэрмінаў»

### Пріорбанк — лепшы ў Беларусі

Аўтарытэтны фінансавы часопіс The Banker групы Financial Times аб'явіў аб прысуджэнні беларускаму Пріорбанку прэстыжнай узнагароды — "Банк года — 2004" у Беларусі. Такім чынам, Пріорбанк, які з 2003 года з'яўляецца членам аўстрыйскай банкаўскай групы "Райфайзэн", сёлета замацаваў свой поспех і стаў першым банкам у Беларусі, ганараваным такой узнагародай два гады запар.

**Аляксей АРЭШКА.**

*Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!*

*Да заканчэння падпіскі на IV квартал 2004 года —*
***6 дзён.***
***Не спазніцеся!***

## Людмила Карпенко предупреждает Лукашенко об уголовной ответственности

*Вдова известного белорусского политика Геннадия Карпенко Людмила Карпенко, которая уже несколько лет вынуждена жить в Германии, считает, что Лукашенко не имеет морального и юридического права идти на третий срок, и призывает его отказаться от намерения провести референдум.*

*Об этом она написала в своем письме Лукашенко, отправленном на адрес Администрации президента.*

"Я прошу Вас добровольно отказаться от своего намерения и отменить Указ президента Республики Беларусь № 431 "О назначении республиканского референдума", — пишет Людмила Карпенко. — Ибо он противоречит статье 78 Конституции Республики Беларусь и статье 112 Избирательного кодекса Республики Беларусь, где установлено, что на республиканский референдум не могут выноситься вопросы, связанные с избранием и освобождением президента Республики Беларусь. Вам также хорошо известно, что одно и то же лицо может быть избрано президентом не более чем на два срока.

Конституция Республики Беларусь обладает высшей юридической силой, декреты и указы должны издаваться только на основе и в соответствии с Конституцией Республики Беларусь. В случае расхождения декрета или указа с Конституцией Республики Беларусь действует Конституция Республики Беларусь. Таким образом, изданный Вами Указ не имеет юридической силы.

С учетом изложенного предупреждаю, что Ваши действия имеют признаки преступлений, предусмотренных статьями Уголовного кодекса Республики Беларусь "Заговор с целью захвата государственной власти", 424 (злоупотребление властью или служебными полномочиями), 426 (превышение власти или служебных полномочий)".



**Марина КОКТЫШ.**



*На скрыжаванні...*

Фото photo.bymedia.net

ЗДАРЭННІ

## Каровай больш, каровай менш...

*Супрацоўнікі Віцебскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце абураны паводзінамі старшыні сельгаскааператыва "Гарадзея" Шумілінскага раёна Пятра Кузьміна, у гаспадарцы якога адбылося трагічнае здарэнне: пад цягнік трапілі 3 каровы і 7 цялушак. Статак пасвіўся недалёка ад чыгункі, калі каровы з цялушкамі, нібыта спужаўшыся нечага, раптам выбеглі на рэйкі.*

Машыніст лакаматыва з грузавым саставам зрабіў усё, што мог, каб рэзка знізіць хуткасць, але пазбегнуць гібелі жывёлы не ўдалося, бо ў выніку больш працяглага экстраннага тармажэння загарэліся 6 цыстэрны з нафтапрадуктамі і нават сам цеплавоз. Калі б здарыўся выбух, наступствы яго былі б непрадказальнымі.

Міліцыянеры, прыбыўшы на месца аварыі, убачылі забітых кароў і цялушак, раскіданых уздоўж палатна чыгункі на 200 метраў.

Аварыя адбылася ў 4 гадзіны раніцы, але кіраўнік гаспадаркі, якая ў імгненне страціла 10 галоў жывёлы, прыехаў на злашчасны перагон толькі праз 6 гадзін. У выніку ад цёплага надвор'я забітыя каровы і цялушкі даляжалі да такога стану, што іх ужо немагчыма было скарыстаць на мяса.

Не выключана, што П.Кузьмін і зусім бы не крануўся з цэнтральнай сядзібы да месца гібелі жывёлы, калі б яму ў 10 гадзін не патэлефанаваў на кватэру старшыня Шумілінскага райвыканкама...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Пагражаў узарваць школу

*У Брэсце затрыманы 40-гадовы мужчына, які пагражаў выбухам у школе.*

11 верасня ў 20.22 па тэлефоне 02 паступіў ананімны званок. Патэлефанаваўшы мужчына заявіў, што ў будынку сярэдняй школы №19 Брэста закладзена выбуховая прылада, якую ён збіраецца прывесці ў дзеянне 12 верасня ў сёмай гадзіне раніцы.

Нідзе не працуючы жыхар абласнога цэнтра быў затрыманы ў адным з таксафонаў на вуліцы Кірава, адкуль вёў размову з супрацоўнікам службы 02.

Выбуховую прыладу ў школе не знайшлі. Затрыманы, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення, свой учынак растлумачыць не можа. У дачыненні да яго заведзена крымінальная справа па артыкуле 340, частцы 1 КК (пагроза выбуху). Прыкметна, што раней гэтага чалавека ўжо судзілі за пагрозу забойства.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Владимир Рощинский: фермер, помещик, предколхоза или уголовник?

*...О реформах в белорусском сельском хозяйстве говорить можно долго. Пожалуй, определеннее многих по этому поводу выразился руководитель немецко-белорусского проекта "Содействие сельскохозяйственным предприятиям и сельским регионам" Хайко ЯННЕРМАНГ: "В Беларуси структурных изменений в АПК практически не произошло. Права собственности на сельхозугодья нет ни у колхозов, совхозов, других юридических лиц, ни у крестьянских хозяйств. Возврат земель их прежним хозяевам, как это было в Восточной Германии, Чехии, Венгрии, Болгарии, Румынии и странах Балтии, в Беларуси и не предусмотрен.*

*Иностранных инвестиций в сельском хозяйстве практически нет. Беларусь очень далека от инвестиционного бума, который был в Польше, Венгрии, Чехии, Украине и в некоторых регионах России...".*

*Проще говоря, в то время как в АПК упомянутых выше соседей вкладывались большие деньги, Беларусь проводила нечто вроде реформ...*

### Нечто вроде реформ...

Собственно говоря, в начале 90-х многие были за реформы. Но потом, ближе к 1994—1995 годам, руководители страны поняли: появление собственника означает необходимость делиться с ним властью. С другой стороны, возникал вопрос: что делать с колхозами, которые в условиях реальных цен на энергоносители существовать в прежнем виде больше не могли и большая часть которых стали по существу банкротами?

Тогда начали искать нечто такое, что еще Владимир Ленин называл: "быть немножко беременными". Чтобы и сохранить неограниченную власть, и отойти от колхозов в их чистом виде.

Тогда в числе других новаций из серии "нечто вроде реформ" появились так называемые *фермхозы* — колхозы, переданные в аренду успешно развивающимся фермерам. Идея была изначально ущербна, потому что не решала главного вопроса — вопроса собственности. Но областным и районным властям, работающим в данных конкретных условиях (диктуемых сверху), пришлось из нескольких зол выбирать меньшее. А в "фермхозах" была хотя бы попытка внедрения собственности в сельхозпроизводство...

Первыми на этот эксперимент пошли в Витебском районе Витебской области на основе колхоза "21 партсъезд".

Этот самый "21 партсъезд" был на тот момент скорее мертв, чем жив. Уже не первый год за неимением собственных сил на его площадях всем районом сеяли, пахали, кормили и потом доили худеньких здешних коров. Пахали, разумеется, некачественно и не сами — все больше отряды из района. Сеяли в пустую землю, кормили животных так, что им впору подохнуть... Впрочем, здешние коровы и вправду стали такими худенькими, что дохли. А если и нет, производили совершенно нежизнеспособных телят, легко отдающих богу свою нежную телячью душу...

К севу 1999 года из 13 более или менее пригодных колхозных тракторов прошли техосмотр только два. За предыдущие 10 лет здесь сменилось 10 председателей и пропало неизвестно куда 72 единицы техники...

### Для информации:

*По итогам работы за 1999 год 1233 сельхозпредприятия Беларуси (больше половины) работали с убытком. Многие из них не в состоянии вести простое воспроизводство. Ими утерян производственный и кадровый потенциал.*

*Рентабельность производства по официальной статистике, составила лишь около 5%, в том числе молока — минус 6,8%, крупного рогатого скота — минус 9,8%, свиней — 9,8%.*

*Задолженность по заработной плате за ноябрь месяц на январь текущего года составила 92,8%.*

Тогда в Витебском районе после консультаций со специалистами из Горецкой сельскохозяйственной академии приняли решение: передать колхоз в аренду тому, кто согласится. У истоков такого решения между прочим стояла широко известная в аграрном мире Наталья Лемешева — один из талантливых, широко мыслящих аграрных руководителей. К несчастью, слишком рано она покинула нас.

После долгих уговоров взять в аренду колхоз согласился местный фермер Владимир Рощинский, без проблем работавший рядом на своих 70 гектарах.

— Сначала я отказывался, — говорит он. — Потом, в принципе, согласился. Потом приехал, посмотрел, о чем идет речь, пришел в ужас и отказался опять...

Потом его, как водится, уговорили. Был заключен договор, согласно которому основные средства колхоза "21 партсъезд" стоимостью около 20 миллиардов передавались крестьянскому фермерскому хозяйству на 5 лет в аренду с правом выкупа.

Договор был весьма ущербным и прав Рощинскому как собственнику давал немного. Но оставлял за властями возможность в будущем либо засудить смельчака за разбазаривание народного имущества, если дела пойдут плохо, либо отнять потом это имущество — если дела пойдут хорошо.

Вообще риск был огромен не только в правовом отношении, но и чисто экономически. Не вдаваясь в тонкости, отметим только: чтобы получить маломальски приличный урожай, в гектар белорусской земли надо вложить не менее чем 100 (а лучше 150!) долларов США. Таким образом, на полутора тысячах гектаров пашни (самый маленький белорусский колхоз) фермер должен иметь по меньшей мере 200.000 долларов. Таких денег у маломощных белорусских фермеров нет.

Вот мнение Константина Ермоленко, председателя Союза фермеров Беларуси:

*— Крестьянское фермерское хозяйство изначально держится на собственном труде. А в "фермхозах" широко применяется труд наемный. В результате получается уже не фермерское хозяйство и еще не помещичье. Нечто несуразное...*

*К тому же приватизировать колхозы — образно говоря, искать нового хозяина для Бобика — нужно, пока он еще жив и бодренько бегает. В Беларуси дожидаются, когда Бобик сдохнет, и только тогда пытаются его всучить кому угодно...*

...Но после того как Владимир Рощинский все же решился взять "21-й съезд" в аренду, люди последовали его примеру. Один из фермеров в Шумилино хотел даже два колхоза сразу! И не только потому, что очень велика не убитая десятилетиями советской власти тяга к собственности. Просто найти человека, который ради общего дела согласится жертвовать чем угодно, у нас в стране, к сожалению, не составляет труда. Пообещать этому человеку любые золотые горы — только бы согласился! — труда составляет еще меньше: сделать потом из этого же человека дурака в лучшем случае и врага народа в худшем — труда не составляет вообще! Таких примеров множество: от гродненского губернатора Петра Столыпина, погибшего за идею экономической свободы, до реформаторов агрокомплекса последних лет...

...Но фермеры, повторим, колхозы в аренду начали брать. Там же, в Витебской области, хозяйствует Валерий Бойков, взявший в аренду колхоз "Красный партизан". У него в районе был вполне успешный бизнес. Все накопленные деньги он самоотверженно вложил в своего "Красного партизана". Сейчас у него только долги. Хотя оптимизм пока сохранился.

Местные власти ему помогают, хотя делит местный бог все равно неровно. И если колхозам налоги и долги, скажем, по лизингу, списываются моментально, то с частником (даже таким урезанным, как в "фермхозах") разговаривать об отсрочках никто не хочет.

В Лиозненском районе хорошо развивается взявшее в аренду местный колхоз крестьянское хозяйство Александра Ивановича Панкратенко.

В Шумилинском районе хорошо говорят о крестьянском хозяйстве "Родник": на территории бывшего колхоза теперь высокая зарплата, в числе работающих много молодежи.

Сегодня в области таких хозяйств 12. Еще раз подчеркнем: власти Витебщины — от губернатора Владимира Андрейченко до районного руководства — относятся к ним вполне лояльно. Хотя деление на "свои" — то есть, колхозы, то есть нынешние СПК (кстати, никто толком не может объяснить, что это такое, как в них решается вопрос собственности...) и "не свои" — то есть "фермхозы", все же присутствует.

...Что касается самого Владимира Рощинского, то и у него дела идут неплохо. По этому поводу есть целый ряд мнений местных аграрных руководителей. Одно из них — заместителя председателя Витебского райисполкома по экономике Тамары Степановны Чумаковой:

*— Всего мы в районе передали в аренду 4 убыточных колхоза. Из четырех неудачной оказалась одна попытка — с колхозом "40 лет Октября".*

*А другие три, включая хозяйство Рощинского, нормально работают. Сохранено производство, рабочие места, идет увеличение поголовья скота. И денег на молоке Рощинский зарабатывает больше, чем некоторые нынешние СПК...*

*Зарплата выросла в несколько раз, строится жилье.*

*Проблемы, разумеется, есть. Но из трех хозяйств, арендующих колхозы, Рощинский не худший.*

Вполне конкретно выразилась и заместитель председателя областного комитета по АПК Тамара Петровна Вусько:

*— Практика показала, что схема, когда фермер берет колхоз в аренду, имеет право на жизнь и на развитие. Что касается Владимира Рощинского, я не могу сказать, что он не справляется. Если еще перестанет всем заниматься сам, а подберет, наконец, команду специалистов — все вообще будет хорошо.*

Один из руководителей Витебского района в те времена, когда "фермхозы" только начинались, а ныне заместитель председатель областного сельскохозяйственного комитета Сергей Александрович Догель вообще считает, что, если бы не фермеры — такие, как Рощинский, на месте взятых в аренду колхозов была бы разруха. Разломанные фермы, разграбленные машинные дворы... Жизнь не остановилась бы, конечно, крестьяне копались бы у себя в огородах... Но остались бы практически без средств к существованию.

— Нет фермы — нет деревни, — уверен Догель.

Главный специалист по племенному делу и личным подсобным хозяйствам Татьяна Федоровна Лопатко только что объехала "фермхозы" и тоже уверена: схема работает. Даже при том, что фонд поддержки фермерских хозяйств иначе как мизерным не назовешь.

Заместитель руководителя Витебского филиала Агропромбанка Анатолий Владимирович Варнава вообще был краток:

— По состоянию на сегодняшний день фермерское хозяйство Рощинского по ранее полученным кредитам рассчиталось.

И наконец, механизатор бывшего колхоза им.Фрунзе, а ныне фермерского хозяйства "Дубрава" Сергей Карелин, на днях въезжающий в новый, построенный уже при Рощинском дом, уверен:

— Раньше я зимой 10.000 получал, живи как хочешь. А теперь и я, и вообще, кто не пьет, — в 10 раз больше зарабатывают...

Образно говоря, умерший было Бобик в руках умелого собственника постепенно ожил и даже завилял хвостом.

На этом можно было бы поставить точку. Все эти мнения, добросовестно записанные автором на диктофон, прозвучали на днях. Но уже назавтра из Витебска позвонил Владимир Рощинский: по его сведениям, против него возбуждено уголовное дело. По его же сведениям, там фигурирует и кредит в Агробанке, по поводу которого, как помнит читатель, в самом банке претензий нет. И молоко, которого теперь в хозяйстве доят значительно больше. Но с которым, по мнению правоохранительных органов, что-то все же не так...

Я нисколько не ставлю под сомнение право соответствующих органов возбуждать уголовные дела и нисколько не ставлю под сомнение их же право бороться с расхитителями, как раньше говорили, "социалистической собственности". Но все же не дают покоя всякие мысли. В том числе: может быть, уже пришла пора отнимать у собственника "социалистическую собственность"? Поигрались, хватит?

Тем более что уголовное дело фермера Владимира Рощинского в Беларуси не первое.

**Анатолий ГУЛЯЕВ.**

СІТУАЦЫЯ

## Мост, які губляецца ў цемры

Паабапал Заходняй Дзвіны ёсць нямала населеных пунктаў, жыхары якіх мараць, каб да іхняга берага з процілеглага перакінуўся мост.

У гарадскім пасёлку Руба пад Віцебскам іншая праблема. Існуючы тут аўтамабільны мост праз Заходнюю Дзвіну пераўтварыўся ў небяспечнае для людзей збудаванне. Трэці год мост стаіць без асвятлення, бо нейкія зламыснікі зрэзалі электрычныя правады, а вырашэнне вострага пытання мала хвалюе ўладныя інстанцыі. Фармальна пасёлак Руба знаходзіцца ў адміністрацыйным падпарадкаванні ў Чыгуначнага райвыканкама абласнога цэнтра, але ў раёне і горадзе, відаць, хапае больш важных праблем, чым неасветленая рачная пераправа ў аддаленым ад Віцебска рабочым мястэчку.

Тым часам на ахутаным цемрай мосце ўвечары і ноччу здараюцца аўтааварыі і няшчасныя выпадкі з пешаходамі. Аднойчы машына збіла хлопчыка, і ён ад траўм памёр.

На календары восень, не за гарамі і зіма з яе кароткім светлавым днём, а на 16 слупах моста няма ніводнай лямпачкі. Адсутнічаюць і правады. Гэткае ж становішча і на чатырох асвятляльных апорах перад мастом. Знятыя нават светлаадбівальнікі, якія папярэджваюць шафёраў аб набліжэнні да пераправы.

Электраабсталяванне моста абясточана ўжо два гады.

Старшыня Рубаўскага пасялковага Савета Міхаіл Шаблакоў амаль штодня слухае і чытае скаргі месцічаў на злавесны мост, па якім страшна хадзіць і ездзіць. Старшыня звярнуўся ў віцебскае прадпрыемства "Гардармост", але адтуль яго "адфутболілі" ў рэгіянальнае ДЭУ-14 — падраздзяленне аўтадарожнага ведамства.

Начальніку гэтай эксплуатацыйнай арганізацыі Аляксею Бысеву таксама не пазайздросціш. Ён і хацеў бы аднавіць асвятленне рубаўскага моста, але не надта спадзяецца, што сілы і сродкі падпарадкаванага яму ДЭУ не будуць страчаны марна. Няма дарожнікам спакою ад злодзеяў і вандалаў. За адну ноч на мяжы з Расіяй невядомыя асобы знялі 10 дарожных знакаў.

Няма ніякай гарантыі, што адноўленая сістэма асвятлення аўтамабільнага моста ў Рубе пратрымаецца да вясны, а не стане чарговай ахвярай злачынцаў або хуліганаў-вандалаў.

Мост тым часам працягвае зліваецца з вечаровай цемрай, рыхтуючы пасткі праходжым і праезджым людзям.

Відаць, уся бяда ў тым, што злашчасны мост не мае сапраўднага, руплівага гаспадара ні ў Рубе, ні ў Віцебску, ні ў аўтадарожным эксплуатацыйным ведамстве...

Мяркуючы па ўсім, рубаўскі мост будзе заставацца без асвятлення да таго часу, пакуль з яго не абрынецца ў раку машына якога-небудзь важнага чыноўніка.

Тады, канечне, на рамонт электразабеспячэння пераправы хуценька знойдуцца і грошы, і выканаўцы...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ФЕЛЬЕТОН

# Далікатная справа

Калі Міхася Купіну звольнілі за п'янку з раённай нарыхтоўчай канторы, жонка заляпіла яму аплявуху і адразу ж пазваніла свайму дзядзьку Антосю Жабскаму, які ахоўваў прыроду:

— Уладкуйце гэтага няцямлю да сябе, няхай пасе травяных конікаў, калі не хацеў займацца сапраўднай справай.

— У мяне што, па-твойму, прахадны двор? Як хто з радні праштрафіцца, то сюды сунуцца: памажы, памажы. А ў мяне, між іншым, далікатная справа. Тут трэба круціцца і выкручвацца, а не пасвіць травяных конікаў. З саліднымі людзьмі больш справу маем, чым з той прыродай.

— У мінулым годзе, калі памятаеш, я ўзяў на работу твайго брата, гультая і забіяку Міцьку, якога за растрату выперлі з гандлю. Усяго і клопату ў яго было, што сустракаць паважаных людзей — паляўнічых і рыбаловаў. Дроў там для вогнішча нарыхтаваць, рыбу з сетак выблытаць, юшку зварыць. Дык ён што аднойчы вырабіў? Прыехала да нас начальства з вобласці. Шчупак, памятаю, якраз на нераст ішоў. Я і сам падаўся разам з гасцямі на раку. Ну, выпілі добра за ўдачу, пасля закінулі сетку, нацягалі шчупакоў. І пачаў Міцька рыбу чысціць. Узяў самага вялізнага шчупака, расшчаперыў яму пашчу, паклікаў майго абласнога начальніка ды і кажа:

— Купрыянавіч, во дзіва! Век такога не бачыў. Шчупак вялізны, а зубы ў яго мякенькія, як маладзенькі лісточак. Памацайце, калі ласка. Мы ўсе асалавела пазіралі на вогнішча, а Купрыянавіч і сапраўды запёр палец у шчупаковы рот па самае годзе. А Міцька-аболтус узяў і выпусціў рыбіну з рук. Зубы ўпіліся ў Купрыянавічаў тоўсты палец, як іголкі ў булку. Ён ўскіпеў, нібы юшка ў вядры. Мы ўсе кінуліся ратаваць, а што канкрэтна рабіць — не ведаем. Вядома ж, у галаве каньячныя пары клубяцца. Вадзіцель, што прывёз гасцей, ухапіўся за шчупака і з сілай пацягнуў да сябе. Купрыянавіч зароў, як лось у гушчары. Потым нехта здагадаўся зноў расшчаперыць пашчу і палец, нарэшце, дасталі.

Госці адразу ж паехалі дадому. Нават юшкі не дачакаліся і рыбу налоўленую пакінулі.

Міцьку, сама ведаеш, прыйшлося звольніць. А я неяк на кіраўнічай пасадзе ўтрымаўся. Улагоджваць давялося начальства з вялікім стараннем. А ты мне цяпер другога дурня хочаш падсунуць?

Кабета ўсхліпнула, і Жабскі змяніў гнеў на міласць: "Добра, няхай заўтра прыходзіць на інструктаж".

Міхась Купіна аказаўся здольным вучнем і надзейным памочнікам дзядзькі Жабскага. Ён спраўна варыў юшку для высокіх гасцей, свежаваў тушы звяроў, студзіў у рэчцы піва ды гарэлку і ўсе былі ім задаволены.

— Ты мне і парушальнікаў шукай, а не толькі гасцей улагоджвай, — павучаў дзядзька. — Калі ў лесе ці на рацэ зловіш за недастойным заняткам якога браканьера-прастака, штрафуй смела, без аглядкі. Гэтыя канцоў век не знойдуць ды і шукаць не будуць, нават калі што і не так.

— Нашых прастакоў нават у Афрыцы пазнаеш. Такіх людзей больш няма нідзе — памяркоўных, сціплых і пакорлівых. Ты мяне зразумеў? Калі не зразумеў, то табе няма чаго рабіць у ахове прыроды.

Міхась і ў гэтай справе аказаўся дока. Але аднойчы ў час нерасту ён убачыў на рацэ двух чалавек няпэўнага паходжання. Нібыта і падобныя на прастакоў: у гумовых ботах, фуфайках. Але боты з высокімі халявамі, і паблізу стаяў імпартны легкавік. Тут любы заблытаецца ў здагадках.

Міхась зашыўся далей у прыбярэжныя кусты, зняў форменную вопратку і таксама прыбраўся ў фуфайку і гумовікі. Сваю форму з пасведчаннем ахоўніка прыроды схаваў пад кустом і накіраваўся да рыбаловаў, каб у асабістым кантакце выявіць іх прыналежнасць да пэўнага сацыяльнага слою.

— Як справы, рыбакі? — гукнуў весела.

— Добра! — задаволена прамовіў маладзейшы. — Другі раз ужо закінулі, толькі сетка дзесьці за корч зачапілася, і пакуль мы тут валэндаемся, рыба ўцякае.

— Эх, разявы! — са скрухай прамовіў Міхась і разам з рыбакамі пачаў маніпуліраваць сеткай, каб вызваліць яе з карча. Аж спацелі ўсе, пакуль адчапілі. За работай і не заўважылі, як па беразе адкормленай качкай праватюхаўся легкавік, як ён спыніўся непадалёку і выпусціў са свайго тоўстага бруха людзей у міліцэйскай форме.

— Як справы, рыбакі? — гукнулі весела, як і нядаўна Міхась. — Мы з абласной міліцыі, ловім браканьераў.

Нямая сцэна цягнулася доўга, аж пакуль яе не перапыніў сам Купіна:

— Дык і я ж, ці паверыце, гэтым самым займаюся, — паведаміў ён міліцыянерам. — Бо, каб вы ведалі, раённую прыроду ахоўваю. Там, у кустах, і вопратка мая форменная, і пасведчанне ляжыць.

— Маладзец! — пахваліў яго малады капітан. — За садзейнічанне браканьерам атрымаеш двайную мерку. Нясі сюды форму і пасведчанне.

Міхась нырнуў у кусты, схапіў сваё адзенне і хацеў раствалыцца ў прыродзе, якую так шчыра ахоўваў. Але яго пільнавалі. Малады капітан спрытна схапіў ахоўніка за каўнер і лёгка, як травянога коніка, прынёс на бераг.

І рыбакі, і Міхась атрымалі сваё. Толькі дзядзька Жабскі аказаўся беднай ахвярай, якую выпхнулі на пенсію без традыцыйнай ганаровай граматы і кветак. І за яго ніхто не заступіўся.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

СМЕХОТУРА

## Российские программы подменили белорусскими

*В пятницу вечером на канале "Россия" крутили пропагандистский фильм белорусского производства — один из тех, который рассказывает о "продажной белорусской оппозиции".*

Очередную агитку показали в прайм-тайм. Если бы фильм крутили каналы "БТ", "ОНТ" или "СТВ", наверное, никто бы не удивился. Привыкли уже. Правда, сегодня государственные телеканалы взяли другой курс. ОНТ, например, регулярно крутит непритязательные ролики о том, как тяжело быть первым, тем более — первым президентом. Строители, комбайнеры, пассажиры автобуса сходятся во мнении, что надо обязательно идти на референдум и поддержать Лукашенко — "человека, у которого слово не расходится с делом".

А вот на канале "Россия" в пятничный вечер шел почему-то дешевый политический триллер о белорусской оппозиции. Причем фильм, сделанный не в России, а в Беларуси. Во время трансляции фильма в правом углу телевизора был четко виден логотип "Россия". И это показалось странным. Неужели российский канал купил у белорусской стороны подобный шедевр публицистики?

Но уже в воскресенье все стало на свои места. В программе "Вести недели" прозвучал комментарий российской стороны — к трансляции белорусского телепродукта российский канал не имеет никакого отношения.

*"То, что программы российских каналов в Минске время от времени перекрываются местными передачами, — практика некрасивая, но привычная,* — прозвучало в сюжете "Вестей". — *То, что местный телепродукт маскируется под российский, — вещь пока неслыханная.*

*На экране — логотип "Россия". В эфире — пропагандистский фильм о том, что вся белорусская оппозиция, во-первых, куплена, во-вторых, — иностранные агенты.*

*Своим недоумением зрители могли поделиться только с автоответчиком: минский корпункт телеканала "Россия" белорусские власти недавно закрыли — за "неправильное" освещение июльской акции оппозиции".*

Но как получилось, что фильм попал на канал "Россия"?

В Беларуси эксклюзивным правом на трансляцию и распространение программ телеканала "Россия" обладает ЗАО "Столичное телевидение". Логично, что руководство "СТВ" должно быть в курсе того, почему на российском канале произошли изменения в программе телепередач на пятницу. Однако руководство СТВ данный инцидент оставляет без комментариев. В телефонной беседе программный директор канала **Павел Кореневский** сказал, что *"канал РТР — это часть программ РТР, остальные могут быть любыми другими программами. А по поводу фильма — это я оставлю без комментариев..."*. На наш вопрос, значит ли это, что белорусские программы могут идти под логотипом телеканала "Россия" без ведома российской стороны, Кореневский ответил: *"Я не в курсе..."*.

Может быть, ответственное лицо СТВ считает, что он может быть "не в курсе". Но зрители имеют право знать, будут ли и впредь российские программы подменяться белорусскими. И, например, вместо "Специального репортажа" с Аркадием Мамонтовым белорусским телезрителям покажут фильм ужасов о белорусской оппозиции или мелодраму о судьбе простого директора совхоза "Просто Саша"...

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## Беларусь застаецца ў ліку краін з найменш спрыяльнымі ўмовамі для вядзення бізнесу



Сусветны банк і Міжнародная фінансавая карпарацыя апублікавалі даклад "Бізнес у 2005 годзе: прадухіленне перашкод для росту", згодна з якім Беларусь далучаецца да ліку краін з найменш спрыяльнымі ўмовамі для вядзення бізнесу. Прэзентацыя даследавання, у якім разгледжаны перспектывы развіцця прадпрымальніцтва ў 145 краінах, адбылася ў Вашынгтоне.

Згодна з даследаваннем, для рэгістрацыі кампаніі ў краінах Еўропы і Сярэдняй Азіі неабходна ў сярэднім выканаць 10 працэдур, што па часе зойме каля 42 дзён, і заплаціць суму, роўную 15 працэнтам даходу на душу насельніцтва. У Беларусі рэгістрацыя новай кампаніі займае 79 дзён. Больш часу на гэта патрабуецца толькі ў Азербайджане — 123 дні. Для параўнання, у суседзяў Беларусі — Польшчы і ва Украіне — для рэгістрацыі кампаніі патрабуецца адпаведна 31 і 34 дні.

Кошт працэдур для пачатку бізнесу ў Беларусі складае 25,3 працэнта ВУП на душу насельніцтва. Даражэй у рэгіёне яна толькі ў Турцыі (26,4 працэнта), Албаніі (32,2 працэнта), Босніі і Герцагавіне (46,2 працэнта). У Літве яна складае 3,7 працэнта, ва Украіне — 17,6 працэнта.

Самай паспяховай у свеце краінай-рэфарматарам інвестыцыйнага клімату за мінулы год аказалася Славакія, якая ўвайшла ў дваццатку краін з найлепшымі ўмовамі для вядзення бізнесу.

У цэлым за мінулы год краіны з развітай эканомікай ажыццявілі ўтрая больш рэформаў інвестыцыйнага клімату, чым бедныя краіны. Еўрапейскія краіны былі асабліва актыўныя ў гэтым кірунку. У дзесятку найлепшых рэфарматараў поруч са Славакіяй увайшлі Калумбія, Бельгія, Фінляндыя, Індыя, Літва, Нарвегія, Польшча, Партугалія і Іспанія.

Пяць дзяржаў у рэгіёне ўвайшлі ў сорак краін-лідэраў, заканадаўства якіх утрымлівае найменшую колькасць бар'ераў для вядзення прадпрымальніцкай дзейнасці: Літва, Славакія, Латвія, Чэхія і Эстонія. У Беларусі, Украіне, Румыніі і Узбекістане адзначаны найгоршыя паказчыкі.

Як паведамілі БелаПАН у прадстаўніцтвах Сусветнага банка і МФК у Беларусі, прэзентацыю даклада "Бізнес у 2005 годзе: ліквідацыя перашкод для росту" ў Мінску плануецца правесці напрыканцы верасня.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

